

ВЫХОДЗІЦЬ З ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

# *Беларуская* МАЛАДЗЕЖНАЯ

*Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета* №4

*Генадзь КАРПЕНКА:*

## "Беларусь чакае сумны час"

*Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ:*

## "Беларусь не даспела да дэмакратыі"

*Зянон ПАЗЬНЯК:*

## "Ачмурэньне пройдзе зь цягам часу"

**Чытайце на старонках 2-3**

Праўду людзі кажуць: бабіна месца -- ля печы. Але я з тых кухарак, якім абяцана было "кіраваць дзяржавай". Так вучылі, так выхоўвалі.

Таму насуперак жаночай логіцы ацэньваю звычайна не за "прыгожыя вочкі". Па-мойму, сутнасць чалавека -- учынак, і мая даніна жаноцкасці хіба толькі ў тым, што на дрэнныя ўчынкі забываюся хутка.

***Аляксандр ФЯДУТА***, мой сённяшні субяседнік, доўгім часам для радыёстанцыі быў "палачкай-выручалачкай" -- мог прыехаць на эфір праз паўгадзіны пасля запрашэння, меў сваё меркаванне, не баяўся "гарачых" тэм. Саюз Моладзі Беларусі на чале з Фядутам абвясціў радыёстанцыю "Беларуская маладзёжная" лаўрэатам прэміі СМБ у час, калі на нас ішоў ціск і ганенні. Гэта -- учынак. /Матывацыя ўчынку -- "Яны /гэта -- БМ/ паважаюць свабоду думкі. На іх хвалях мелі права выказацца ўсе -- ад Пазьняка да Вазняка"/.

Яшчэ ўчынак -- XXXI з'езд Саюза Моладзі Беларусі прыняў заяву ў падтрымку "Беларускай маладзёжнай" адразу ж пасля закрыцця радыёстанцыі. Не зважаючы, што скажуць "наверсе".

Апошнім разам у студыі мы сустракаліся з А.Фядутам 27 траўня, у дзень закрыцця, раніцай. Ён ужо гаварыў пра падтрымку Лукашэнкі і, згаджалася б я ці не, гэта быў ягоны **ВЫБАР**.

"Ты памыляешся. Але чаму так безаглядна?" -- хацелася спытаць. На жаль, сёння пытанне варта адрасаваць большасці беларускіх выбаршчыкаў...

**А. ФЯДУТА -- госць чацвёртай старонкі "БМ"**



**Под знаком "Ч"**

## ЧЕРНОБЫЛЬСКИЕ ЛЖЕГЕРОИ

### "БМ" продолжает тему

В конце прошлого года исполком Могилевского областного Совета освободил от должности заведующего одного из отделов исполкома Геннадия Пшиходского. За грубые нарушения при распределении средств, выделенных на ликвидацию последствий чернобыльской катастрофы. Значительная сумма их была истрачена на приобретение "иномарки", других жизненных благ.

И кто же этот Пшиходский?

Бывший первый секретарь Краснопольского райкома партии. Под его непосредственным руководством из КПСС было исключено 48 человек, столько же получили строгие выговоры. За малодушие. Этим людям испортили судьбу только за то, что они, спасая от радиации своих детей и себя, решили выехать в безопасные места. Но что такое -- малодушие? Смирение со своей участью, с указующим "так надо", вопреки бесстрастным показаниям бесстрастных приборов, или добровольное -- во имя будущего -- отречение от карьеры, от налаженного быта, от корней своих?

Уже за этим одним фактом видится многое. Прежде всего -- наихудшее проявление прагматизма, когда за ближайшими задачами (и в первую очередь -- пресловутое выполнение планов) товарищ Пшиходский и его партийные единомышленники не увидели отдаленных перспектив проживания людей в загрязненной местности. План выполняют люди, значит, удержать их любой ценой!

Велика оказалась цена!

Сам Геннадий Михайлович вскоре после чернобыльской катастрофы оставил свой потерпевший район, людей, которых он наказывал и миловал. Оставил с их бедами, болезнями, тревогами. Удрал подальше от радиации, успев, однако, получить орден "Знак Почета" за заслуги по ликвидации последствий катастрофы.

Эти указы Президиума Верховного Совета СССР в печати не публиковались -- как и правда о масштабах чернобыльской трагедии. Они были доступны только узкому кругу хозяев высоких кабинетов. Среди награжденных орденами и медалями -- сотни рабочих и служащих предприятий и организаций Беларуси, которые откликнулись на чужую беду, сутками вывозили людей от смертоносного реактора, создавали условия для тех, кто жил за пределами 30-километровой зоны.

Что ж, почет им и слава! Они не должны стесняться своих наград!

Иную группу награжденных составляют коллеги Геннадия Пшиходского, товарищи из партийно-государственной номенклатуры. Лишить себя возможности заиметь орден они, конечно же, не могли. Это те, кто утверждал, что "вред от радиации не более, чем от выкуренной сигареты", кто обещал жителям Брагина и Наровли через год чистые грибы и ягоды в окрестных лесах, кто выводил детей на первомайскую демонстрацию, кто в конце-концов обеспечивал высокий уровень партийно-пропагандистской работы.

Что ж, назовем этих героев.

Ордена Октябрьской революции удостоен Егор Сухоруков --первый заместитель председателя бывшего Госагропрома БССР.

Ордена Трудового Красного Знамени засверкали на груди бывшего главного санитарного врача республики Александра Кондрусева, а также первых секретарей Брагинского и Хойникского райкомов партии Георгия Панькова и Дмитрия Демичева.

Первый секретарь Наровлянского РК КПБ Николай Хоботов награжден орденом Дружбы народов (!). Такой же орден получил лектор Гомельского обкома партии Эдуард Зубков.

Ордена "Знак Почета" удостоились первый секретарь Климовичского райкома КПБ Александр Ковалев и бывший заместитель министра здравоохранения Виктор Бурьяк.

Медали "За трудовую доблесть" достались второму секретарю Хойникского райкома Надежде Дрозд, инструктору Гомельского обкома Александру Пиляку, первому секретарю Чериковского райкома, недавнему кандидату в Президенты Республики Беларусь Василию Новикову.

Интересным вообще-то было и распределение наград. Если, скажем, первым секретарям Хойникского и Брагинского райкомов --ордена, то руководителям этих райисполкомов Александру Обухову и Александру Прокопову -- только медали, хотя они и являлись начальниками гражданской обороны своих районов и по существу все тяжести по эвакуации населения были возложены на их плечи. Но партийное руководство на то и партийное, чтобы отхватить себе наиболее яркую награду, приписать незаслуженные заслуги, а потом умело откреститься от ошибок. И этим самым перебросить мосток к высокой карьере.

А где они теперь, чернобыльские орденоносцы? Одни из них занимают шикарные кабинеты в Доме правительства, другие -- в здании бывшего ЦК КПБ, третьи стали коммерсантами... Думают ли они хоть иногда о судьбе тех, кто в цинковых нагрудниках бросался на невидимые атомные стрелы, кто "укрощал" разбушевавшийся реактор, кто хоронил мертвые деревни?

*Владимир БАЦКАЛЕВИЧ, специально для "БМ"*

# Прадаецца Беларусь. Гуртам і ў раздроб.

# ДУМАЙ!

# ВАШЫХ ДУШАХ ПРАГУ ВОЛІ?

## Генадзь КАРПЕНКА:

## "Беларусь чакае сумны час"

Нягледзячы на ўсе палітычныя калізіі ды змены, што адбываюцца штодня ў краіне, існуюць тыя палітыкі, часовы сыход якіх у цень палітычнай сцэны не змяншае цікаўнасці да іх як да ўплывовых асоб. Да такіх людзей можна смела аднесці мэра Маладзечна, дэпутата Вярхоўнага Савета РБ, старшыню Партыі Народнай Згоды Генадзя Карпенку. Незаўсёды чыстая, а месцамі брудная барацьба падчас збору жаданых 100 тыс. подпісаў прымусілі яго выкрэсліць сваю кандыдатуру са спісу прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду першага прэзідэнта Беларусі. Гэта адвяло ад яго асобы промні палітычных сафітаў. Але ж да першага туру Карпенку яшчэ ўзгадвалі як палітыка, які сімпатызуе Пазьняку. Толькі, на вялікі жаль, Зянону Станіслававічу не ўдалося прайсці ў другі тур, і гэта цалкам адсунула Генадзя Карпенку ў цень. Але наўрад ці яму няма чаго сказаць і па выніках першага тура галасавання ды і наогул па сённяшняй палітычнай сітуацыі ў краіне...

-- Генадзь Дзмітрыевіч, як вы ставіцеся да вынікаў першага тура галасавання?

-- Па-шчырасці, мяне здзівілі два моманты. Першы -- што так многа людзей аддалі свае галасы Лукашэнку, а другое -- што так мала галасоў атрымаў Пазьняк.

-- Як вы лічыце, ці не было ў гэтым сэнсе падтасовак?

-- Не думаю. На ўсіх выбарчых участках былі назіральнікі, і таму мне здаецца, што парушэнняў не было.

-- Але ж не на ўсіх участках /асабліва гэта датычыцца Гомельскай і Магілёўскай абл./ былі назіральнікі ад БНФ ці ад БСДПГ, якім можна верыць.

-- Ну, прынамсі, ў мяне ды і ў іншых партый звестак аб парушэннях такога кшталту няма. Я думаю, калі б яны мелі месца, аб іх бы абавязкова хтосьці ды даведаўся б.

-- Нават у Маладзечне, ў вашым родным горадзе, у вайсковай частцы 65 працэнтаў прагаласавала за Кебіча. У іншых месцах гэты працэнт яшчэ большы. Адкуль у вайскоўцаў такая цяга да прэм'ера?

-- Зразумела адкуль. У войсках заўсёды вельмі добра спрацоўваў механізм каманднай сістэмы.

-- На вашу думку, чаму так шмат галасоў атрымаў Лукашэнка?

-- Проста ён найбольш востра ў самыя апошнія дні выказваўся за адстаўку ўрада і супраць Кебіча. А калі прыняць да ўвагі сённяшняе эканамічнае становішча ў краіне і агульнанародную незадаволенасць дзейнасцю Савета Міністраў, то ўсё становіцца на свае месцы.

-- Што зможа зрабіць каманда Лукашэнкі, каб вывесці краіну з крызісу?

-- Па-першае, ніхто яшчэ пакуль што не бачыў праграмы Лукашэнкі, што ён збіраецца рабіць і як -- невядома. Па-другое, з якімі людзьмі. У яго камандзе ў асноўным людзі маладыя, з невялікімі практычнымі ведамі, і адказаць, што рэальна яны змогуць зрабіць для дабрабыту краіны, мне вельмі праблематычна.

-- Ці няма ў вас злосці, крыўды і зайздрасці да свайго былога паплечніка, а зараз чалавека з каманды Лукашэнкі -- Ганчара?

-- Ні крыўды, ні зайздрасці няма. А што датычыць злосці... Вы прасачыце палітычны шлях Віктара Ганчара: спачатку ён быў з БНФ, потым з Кебічам, потым з Шушкевічам, потым з Карпенкам, зараз з Лукашэнкам. У кожнага свой шлях... альбо дзесяць шляхоў.

-- Як вы лічыце, што будзе з Беларуссю пад прэзідэнцтвам Лукашэнкі: будзе аддадзена Расеі, абцягнута калючым дротам, за якім будзе праходзіць "барацьба" з карупцыяй, ці распачнецца грамадзянская вайна?

-- Першага і другога, мяркую, не будзе. А што тычыцца вайны... На Беларусі дастаткова палітычных сіл, якія праводзяць канструктыўную лінію, і яны гэтага не дапусцяць.

-- Як вы ставіцеся да метадаў, з дапамогай якіх некаторыя палітыкі прабіваюцца ў першы, а потым і ў другі тур?

-- Кожны сам выбірае метады барацьбы за ўладу. Да прыкладу, я карыстацца мог бы не ўсімі метадамі, якія мы бачым падчас гэтай прэзідэнцкай гонкі.

-- Падчас першага тура Партыя Народнай Згоды сімпатызавала БНФ. Каго вы зараз будзеце падтрымліваць?

-- Мы будзем захоўваць нейтралітэт. Але я лічу, што Кебіч павінен зняць сваю кандыдатуру.

-- Ці не думаеце вы, што другі тур трэба байкатаваць?

-- Я думаю, што кожны павінен для сябе вырашыць, ісці яму на выбары ці не. І калі ісці, то за каго альбо супраць каго галасаваць.

-- А вы самі пойдзеце?

-- У прыватнасці, я на другі тур выбараў не пайду.

-- Чым зараз будзе займацца ваша партыя?

-- Рыхтавацца да выбараў у новы Вярхоўны Савет.

-- Якія перспектывы?

-- Прэзідэнцкі марафон даў нам магчымасць праверыць свае сілы ды папрацаваць на імідж. Таму я лічу, што на працэнтаў 15--20 у новым Вярхоўным Савеце мы можам спадзявацца.

-- З якімі партыямі вы будзеце падтрымліваць кааліцыю?

-- З усімі партыямі дэмакратычнага блоку.

-- Якія ў вас прынцыповыя разыходжанні з БНФ?

-- Я б не казаў так катэгарычна "прынцыповыя". Але разыходжанні, безумоўна, ёсць. Назаву два асноўныя. Мы лічым, што трэба больш сціпла ставіцца да расейскай тэмы і больш памяркоўна падыходзіць да нацыянальнага пытання.

-- І на заканчэнне: што чакае Беларусь у бліжэйшы час?

-- Калі нічога не зменіцца, прычым у самы бліжэйшы час, калі не сядуць за стол перамоваў палітыкі, і не паразумнее народ, Беларусь чакае вельмі сумны час, вельмі...

**Зміцер ЛУКАШУК, "БМ"**

## Лукашэнка. Тур другі

Насцярожаны. Такім прыметнікам ахарактарызаваў свой цяперашні настрой пакуль яшчэ кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Але гэтая насцярожанасць не перашкаджае яму, па сутнасці, уключыцца ў другі тур перадвыбарчай барацьбы. Пакуль каманда Кебіча ўдакладняе, хто падклаў прэм"еру большую свінню, перастараўшыся падчас першай рэкламнай кампаніі, Лукашэнка з зайздросным спакоем успрыняў вынікі першага тура, і, можна сказаць, распачаў другі: аднаўлена праца Камісіі Вярхоўнага Савета па барацьбе з карупцыяй, вандроўка па кірмашы, прэс-канферэнцыі адна за адной -- усё працуе на імідж магчымага будучага прэзідэнта.

Журналісты ўжо прызвычаіліся, што калі Лукашэнка склікае прэс-канферэнцыю -- чакай сенсацыі ці па меншай меры тузін новых імёнаў мафіёзі самага вышэйшага рангу. На той, дзе я прысутнічаў, не абыйшлося без гэтага. Аляксандр Рыгоравіч паведаміў аб яшчэ адной акцыі па дыскрэдытацыі людзей яго каманды. Яму стала вядома, што 24 чэрвеня абласныя ўпраўленні КДБ, В.Ф.Кебіч, М.І.Грыб атрымалі паведамленне пра тое, што кіраўнік штаба Лукашэнкі --Сініцын -- з"яўляецца ледзь не агентам ЦРУ. Лукашэнка падзякаваў " сумленным людзям", ад якіх атрымаў гэтую звестку, а ад шэфа КДБ Лавіцкага патрабаваў альбо доказаў, альбо абвяржэння гэтай інфармацыі. " Сумленныя людзі" паведамілі таксама, што тыя ж самыя упраўленні КДБ атрымалі ўказанне сустрэцца з кіраўнікамі абласных выбарчых камісій,каб выпрацаваць разам тактыку сумесных дзеянняў падчас другога тура выбараў. Пасля такіх заяў застаецца паспачуваць роднаму разведвальнаму ведамству з нагоды сродкаў сувязі і кадраў, што працуюць там.

Зрабіўшы традыцыйныя сенсацыйныя заявы, Лукашэнка некалькі збавіў свой імпэт, але час ад часу радаваў цікаўную публіку дасціпнымі жартамі (" У Вярхоўным Савеце мала Вашых прыхільнікаў, як Вы будзеце з ім працаваць? -- Калі стану прэзідэнтам -- будзе многа" / і прыгожымі абяцанкамі/" Верасень 94 -- заключэнне дамовы з Расіяй, відаць, апошняй, аб аб"яднанні грашовых сістэм"). Распавядаючы пра дамову, Лукашэнка прызнаў, што для яе павінна быць згода Расіі. Зрэшты, калі гэтую цагліну -- згоду Расіі --выцягнуць з падмурку разваг, то прыгожы будынак рассыпаецца, бы картачны дамок. Ускосна гэта падцвердзіў і сам Аляксандр Рыгоравіч, калі на пытанне журналістаў аб альтэрнатыве Расіі і, ў прыватнасці, расійскай нафце, адказаў, што іншых альтэрнатыў ды праграм на Беларусі не існуе, і таму яго камандай не разглядаліся. А што, калі раптам " вялікі ўсходні брат" не захоча яднацца з беларусамі і дарыць ім грошы, якіх перыядычна не хапае для сваіх маракоў ды шахцёраў? На гэта адказу не было, відаць, такі варыянт не разглядаўся.

Цікавіліся журналісты і чуткамі аб прапанове Лукашэнкі склікаць Вярхоўны Савет, каб ён на падставе вынікаў першага тура выбараў зацвердзіў яго прэзідэнтам. Адказваючы, кандыдат у прэзідэнты сказаў, што больш чым упэўнены ў сваёй перамозе, і як прагматыку, яму вельмі шкада тых грошай, што пойдуць на другі тур выбараў. Праўда, ён не параўноўваў іх з той сумай, якую штодня губляе Беларусь з-за бясплатнага транзіту расійскіх грузаў ды выдаткуе на ўтрыманне расійскіх войск.

Увогуле, прынцып, па якому Лукашэнка збіраецца ствараць урад -- "згодна мазгоў". Відаць, тут мелася на ўвазе не вага "шэрага рэчыва", а яго магчымасці цвяроза мысліць. Хацелася, каб гэтая магчымасць высвятлялася задоўга да таго, калі яе ўладальнік паспее наламаць дроў і чалавечых лёсаў.

**Алесь Хмяльніцкі, "БМ"**

# Премьеру прочили победу. А напророчили конфуз...



**ИТОГИ** первого тура президентских выборов повергли правительственную команду и ее мощнейшую пропагандистскую машину в состояние глубокого шока. И есть от чего. Хорошо организованная и сплоченная "партия Совмина", еще вчера казавшаяся незыблемой, потерпела сокрушительное поражение. Чуть более десяти процентов граждан Беларуси, имеющих право голоса, поддержали Вячеслава Кебича. Остальные отказали в доверии и его предвыборным обещаниям, и проводимому нынешним кабинетом экономическому курсу. В любой нормальной стране это означает правительственный кризис и добровольный уход в отставку. В любой, но не в нашей. Кебич в отставку уходить не собирается. Более того, как было заявлено им на первой же послевыборной пресс-конференции, он "готов на любые переговоры для достижения согласия, которое ведет к стабилизации государства".

О каком согласии говорит пока еще премьер-министр -- уму непостижимо. Накануне выборов вся многочисленная чиновничья рать, вся подкупленная пресса и придворная "социология" настойчиво внушали нам о массовой поддержке избирателями Кебича, о полном одобрении его курса. Выборы же показали, что и с этой командой, и с ее курсом народ категорически не согласен. Топорно сработанный пропагандистский миф в одночасье лопнул, как мыльный пузырь. Однако расставаться с ним ой как не хочется, и оглашение циничных по своей сути обещаний продолжается.

Как было заявлено на той же пресс-конференции В.Кебичем, одним из путей выхода из кризиса он видит "обновление состава правительства, освобождение должностных лиц, которые скомпрометировали себя, приход в правительство новых, талантливых, энергичных и, главное, честных людей". И это заявляет человек, который еще вчера публично утверждал -- никакой коррупции власти в республике нет, все это домыслы, направленные на компрометацию лично его и его правительства. Вот уж действительно ситуация, когда "на воре шапка горит".

Безусловно, по мере приближения второго тура "партия власти" предпримет отчаянные попытки если не взять реванш, то хотя бы отсрочить свой конец. И поскольку шансов на победу у Кебича нет ни малейших, выход единственный -- сорвать выборы. В этом случае исполнять обязанности президента будет генерал Гриб. А господин Кебич со товарищи продолжит "главную цель своей жизни в интересах народа". Обреченная агонизирующая группировка может еще так успеть "направить", что придется расхлебывать и расхлебывать.

Руководство БНФ, Объединенной демократической партии Беларуси, других политических сил уже заявили о том, что они не поддержат ни Кебича, ни Лукашенко.

Да, фигура Лукашенко не всех устраивает /хотя где вы видели, чтобы какой-нибудь лидер устраивал всех?/. Но в том, что произошло, повинны сами демократы, именно их разобщенность привела к такому раскладу сил. И размахивать кулаками сегодня уже бессмысленно. Выступая против Кебича в первом туре, люди выступали против коррумпированного чиновничьего режима, успевшего в свое время поменять партийные стулья на кресла в госаппарате. Выступив против Лукашенко во втором туре, мы поддержим этот прогнивший режим.

Так что, в очередной раз дадим им возможность остаться у власти?

**Анатолий ПРЯНИШНИКОВ, для "БМ"**

*Александр ФЕДУТО:*

# "Я не делал "ставку". Я должен был к нему прийти"



**КОРР.:** -- Многие из нас в этой выборной "игре" делали "ставку". Каждый выбирал, кто и что больше соответствует его характеру, личности, жизненным устремлениям -- пониманию жизни. Ты и команда, которая работала на Александра Григорьевича Лукашенко, в "ставке" угадали. Я хочу именно так и определить тему всего разговора: "Ставку " сделали точно. Кто выигрывает?"

**ФЕДУТО:** -- Что значит "сделали ставку"? Я не делал ставку. Единственный, кто мог защитить даже в случае проигрыша организацию, во главе которой я стоял -- Союз Молодежи Беларуси, -- был Лукашенко. У всех остальных силы бы на это не хватило.

Ситуация-то получилась очень и очень сложная для меня лично. Было ясно, против кого я -- было ясно, что я буду работать против команды, во главе которой стоит Кебич. Но было не ясно, с кем я. То, что я пришел к Лукашенко, для меня самого было, по меньшей мере, неожиданным. Во всяком случае все, кто меня знает, кто увидел меня вдруг на телеэкране с Александром Григорьевичем, среагировали так: у Федуто началась шизофрения. "Крыша поехала".

У Федуто не началась шизофрения. Я совершенно осознанно работал против Кебича. А тот, кто мог выбить эту команду из седла, был Лукашенко. Уже поэтому я должен был к нему прийти. Я считаю себя патриотом этой страны, Республики Беларусь. У меня была возможность дважды уехать, и если я не уехал, то не потому, что мне лень учить иностранный язык. Но потому, что моя родина -- это маленькая двухкомнатная "хрущевка" в Гродно, на улице Мира. Там живет моя мама. И это моя Родина. Мне некуда уезжать. И поэтому я должен бороться с теми, кто ограбил и мою мать, кто ограбил страну. А для этого нужна очень сильная воля. Дай Бог, чтобы Александр Григорьевич победил, и его воля реализовалась.

**КОРР.:** -- Ты -- доверенное лицо, да?

**ФЕДУТО:** -- Нет. Я не доверенное лицо. Я не знаю, как меня представить четко по одной простой причине: я не определял свой статус в команде, я не требовал для себя статуса.

**КОРР.:** -- Я тебя за это уважаю...

**ФЕДУТО:** -- Могу сказать, что я просил у Александра Григорьевича. Я попросил одну-единственную вещь: в случае победы -- отставки Василия Николаевича Драговца. Сегодня я жалею, что так мало попросил. Нужно было попросить отставки Заметалина, Поволяева. Отставки многих других. Но я думаю, после всего, что произошло, это осуществится.

Так что меня трудно представлять, я в самом деле не знаю своего личного статуса. Когда мне говорят, что нужны документы, я их пишу. Когда говорят, что нужно что-то сделать, провести, организовать, я это выполняю. Спрашивают моего совета -- я его даю.

**КОРР.:** -- Александр, но все -- и ты, наверное, -- видели, что даже программа Лукашенко складывалась, строилась, формировалась "на ходу", в этом туре выборов. И еще не обозначена по многим позициям достаточно четко. Получалось даже так: те, кто слышал самые первые тезисы и обещания, владеют иной информацией, чем те, кто формировал свое мнение по последним выступлениям.

**ФЕДУТО:** -- Татьяна, пойми правильно: программа кандидата и программа президента -- это разные вещи. Кандидат может обещать многое. Президент, который придет во главу государственной машины в стране, которая ограблена, разрушена, измотана, и будет говорить: да, я сделаю все, чтобы народ стал жить лучше... А завтра надо прийти и встать перед телекамерой, сказать: "Ребята, сейчас лучше не будет. Но через два года вы почувствуете". Несчастье Кебича не в том, что он не был компетентен, не знал, как работает завод, райисполком... Он все это знал, и команда его знала. Несчастье Кебича в том, что его окружали люди изолгавшиеся. И, пока они лгали, защищая себя, оттягивая свою агонию, агонизировала Беларусь. И сейчас дело не в программе. Дело в том, чтобы прекратить немедленно эту агонию. Агонию государственной власти. Поднять власть из грязи, в которой она валяется, очистить, привести в нормальное рабочее состояние и начать с трех вещей. Первое. Наведение дисциплины и порядка на государственных предприятиях. Директор есть наемное лицо, а не хозяин. Он не имеет права продавать товар без денег, просить потом у государства, чтобы оно выплачивало зарплату. Если директор так поступает, он плохой директор. Его нужно убирать.

Нужно навести порядок на улицах. Потому что, когда в столице грязно на улице...

**КОРР.:** -- Ты имеешь в виду в буквальном смысле порядок?

**ФЕДУТО:** -- И преступность в том числе. Преступность в первую очередь. Я работал полтора месяца редактором одной центральной газеты, меня сняли за БНФовщину и поддержку Лукашенко. БНФовщина, наверное, то, что я Хадыку в пробном номере напечатал...

**КОРР.:** -- А это какой газеты?

**ФЕДУТО:** -- "Центральной". Там, где сейчас Пашков. И вот я шел как-то вечером из газеты, меня остановили и спросили: "Мужик, ты дурак?" У меня под мышкой был том "Отца Сергия". Стыдно показалось в этом присутствии говорить "да". Ровно через минуту я пожалел, что сказал неправду. Если бы сказал "дурак", я был бы умным. Но мне просто подбили глаз. Так вот, понимаешь, нужно не то, чтобы умному или дураку, Федуто или Ничипорук не подбивали глаз -- нужно, чтобы на улицах Минска и всей республики стало чисто. Налогоплательщик мог пройти спокойно, не боясь, что его грабанут, не боясь, что ему набьют морду. И, наконец, чтобы было чисто в буквальном смысле -- ну, посмотри, что происходит.

И третье, самое главное с моей точки зрения. Нужно при любом раскладе начать нормальное финансирование системы образования. Как бы бедно ни жила Беларусь, нужно, чтобы школа не обваливалась, чтобы там не осыпался потолок, чтобы были учебники, чтобы у ребенка не было гастрита после школьной столовой. С этого нужно начинать. Когда ребенок будет сыт, учитель будет в состоянии вести урок, не опасаясь, что балка свалится ему на голову, когда будет хватать денег, чтобы отпечатать новые учебники -- это значит, что новое поколение выберет белорусский совершенно спокойно. Без воплей, криков и совершенно идиотского поведения Министерства образования.

Начать нужно с этих трех моментов. А потом три приоритета в экономике, которые, с моей точки зрения, Александр Григорьевич определил очень четко. Жилищное строительство. Когда есть рынок жилья, это влечет за собой массу сопутствующих отраслей, начиная от химии, производства стройматериалов, машиностроение, станкостроение. Если есть налоговые льготы на строительство жилья. Нужно дать спокойно нашим сегодняшним капиталистам строить жилье. Да, вы строите жилье. Но на каждый ваш квадратный метр вы полтора метра сдаете государству. Они построят, сделают это дешевле, Те предприниматели, с которыми мы говорили, согласны. Но, говорят, сделайте что-нибудь, чтобы убрать государственный рэкет! Изначальная ситуация, которую застанет Александр Григорьевич, повлечет за собой борьбу с этим государственным рэкетом прежде всего.

**КОРР.:** -- Ты имеешь в виду систему налогообложения?

**ФЕДУТО:** -- Я имею в виду еще и систему дополнительного "налогообложения", которая возникает в результате того, что ты приходишь к чиновнику, а он просит плату, чтобы сделать то, что он обязан делать.

Вторая отрасль -- сельское хозяйство, которое надо вывести из кризиса. И третье -- образование и наука. Как говорит Александр Григорьевич Лукашенко, нет товаров, которые можем продавать, будем продавать мозги. Нельзя закрыть ни один вуз, нельзя закрыть ни один техникум, но при этом надо требовать, чтобы там было нормальное образование. На европейском уровне. Оно может быть платным, оно может быть бесплатным. Но бесплатное образование государственное не должно быть хуже, чем платное. Этого можно достичь, я представляю как, но это уже особый разговор.

**КОРР.:** -- Александр, в третьем номере нашей газеты Андрей Киштымов -- историк, исследователь, журналист -- сказал очень правильно: всякий, кто придет к власти, должен забыть о своих обещаниях и подумать не о тех, кто, выбирая, сказал за него "да", а о тех, кто сказал "нет".

**ФЕДУТО:** -- Татьяна, ты не была на первой пресс-конференции, которую дал после выборов Лукашенко? Он обратился к журналистам: в случае победы Александр Лукашенко гарантирует отмену политической цензуры, прекращение преследования всех журналистов, независимо от того, какую позицию они занимали в избирательной кампании, гарантирует свободное получение информации журналистами у чиновников. А вот дальше идут замечательные слова: нужно, наконец, чтобы народ расправил плечи, а пресса сделала глоток свободы. Потому что нельзя быть рабами, управлять рабами и воспитывать рабов. Если Лукашенко сможет хотя бы к концу своего правления реализовать эту фразу, на каждом перекрестке в городе Минске ему можно ставить памятник.

**КОРР.:** -- Александр, следует ли мне понимать все сказанное так, что Александр Григорьевич Лукашенко к каждому гражданину Беларуси, включая сказавших "нет", будет относиться одинаково?

**ФЕДУТО:** -- Лукашенко будет относиться одинаково к каждому гражданину Беларуси, поскольку Лукашенко будет не президентом команды, но Президентом Республики Беларусь. Одно дело ответственность перед теми людьми, которые тебе помогли, другое дело -- ответственность перед народом. Единственные, к кому он будет относиться плохо, -- это к ворам. Но по отношению к ворам будет действовать уже не воля Президента и не отношение Президента, а закон, который подобно Глебу Жеглову возвещает: "Вор должен сидеть в тюрьме".

**КОРР.:** -- А как же быть с казнокрадами, например...

**ФЕДУТО:** -- А казнокрад -- не вор?

**КОРР.:** -- Да доказать всегда трудно...

**ФЕДУТО:** -- Не трудно. Нужно попросить декларацию о доходах, а также перечень всей недвижимости самого и всех дальних и близких родственников.

**КОРР.:** -- А как же с зарвавшимися чиновниками? Ты же помнишь их действия -- хотя бы по отношению к вам, когда в последний день перед выборами какие-то пакеты в самолетах вдруг всплывали...

**ФЕДУТО:** -- Спасибо Сергею Анатольевичу Поволяеву за стюардессу, которую мы увидели. Красивая девушка! Нам только что сделали подарок -- начальник нашего избирательного штаба, народный депутат Леонид Синицын объявлен агентом ЦРУ. А зарвавшиеся чиновники должны уйти. И они уйдут. И другого выхода нет. Вопрос в том, кто придет.

**КОРР.:** -- Вот, кстати, к вопросу, кто придет. У Александра Лукашенко, кроме тех людей, которые были представлены в первом туре, есть команда? Следует ли нам, избирателям, сейчас ждать новых лиц и более четко очерченных обязанностей?

**ФЕДУТО:** -- Распределения обязанностей можно ждать только тогда, когда Лукашенко получит возможность осуществлять кадровую политику Республики Беларусь. Татьяна, согласись, что даже те, кто уже "засветился" в команде, в случае проигрыша Лукашенко теряют все. Что значит сегодня назвать людей? А если он сейчас работает в правительстве, что сделает с ним Вячеслав Францевич Кебич? Мы все нормально мыслящие люди, не надо спешить. И еще одна вещь. Александр Григорьевич не является партийным президентом, за ним нет партии. Я не исключаю, что будущее правительство будет с элементами коалиционности. Да, туда попадут те представители правительства Кебича, кто не замечен в казнокрадстве и кто не дискредитировал Республику Беларусь. А Петра Кузьмича, к примеру, нужно убирать при любой погоде -- это идиотизм, когда министр иностранных дел не выучил за четыре года даже английский язык! Позор для суверенного государства. Наверняка в правительстве окажутся люди из команды А.Дубко -- более компетентных людей в области сельского хозяйства просто нет. Это, по-видимому, будет первое коалиционное правительство.

**КОРР.:** -- Ты случайно или нет, но обошел Народный фронт и БНФ как партию...

**ФЕДУТО:** -- И ПКБ.

**КОРР.:** -- Или вы будете держать их в роли "покусывающей оппозиции"? Вы не определялись по возможности сотрудничества?

**ФЕДУТО:** -- А это вопрос к Лукашенко. У меня есть личное мнение, но не могу говорить от лица кандидата. Мое личное отношение формулируется следующим образом: кто бы ни победил, Зенон Станиславович лично ни одного портфеля получить не может. Это очень одиозная фигура. Это мое личное отношение, может, какая-то и обида оттого, что он не приехал на съезд Союза Молодежи -- Шушкевич приехал, а он нет, эх, прости господи! Хотя дело не в этом... А среди БНФовцев достаточное количество разумных людей. Что ж их, отталкивать? Естественно, будет попытка собрать все лучшее. А что я могу говорить абсолютно точно -- указы будущего президента будут проходить общественную экспертизу. Будет ли это называться Общественной Палатой, будет ли это Консультативный Совет, но все политические дискуссии, обсуждения будут широко вестись.

**КОРР.:** -- Ну, это если еще Лукашенко изберут...

**ФЕДУТО:** -- Люди, большая к вам просьба: поймите, в случае если Лукашенко не победит, президентом становится Гриб, премьер-министром Кебич. Выбор по-прежнему стоит перед вами. Либо Лукашенко -- немножко неотесанный, не очень интеллигентный, сумбурный, со смешными словами, с "кашей" какой-то во рту иногда, но искренне желающий перемен, открытый к сотрудничеству со всеми партиями, движениями, общественными организациями. Или Кебич. И прежняя политика, которая уже разъела наше общество и государство как наследственный сифилис. Государство гниет заживо, и если не придет хирург... Придите на выборы, не дайте их сорвать. Зенон Станиславович, обращаюсь к вам лично: не надо бойкотировать выборы! Если не состоятся выборы, вы получите прежнюю гниющую власть. Но власть, которая задушит и вас, и нас.

Выборы должны состояться.

***С А.Федуто беседовала Татьяна НИЧИПОРУК, "БМ"***

